# Увага! Газэта цяпер – штотыднёвік!

http://navinki.net

# НАВІНКІ

15 - 22 мая 2002 №10(59) Кошт свабодны

# Канскія львы ў Менску

Значная частка любімых
перадач аплочваецца за кошт рэклямы.
Памятайце аб гэтым, калі будзеце ў наступны
раз глядзець тэлевізар. Выбірайце – з
рэклямай альбо безь рэклямы!!! Выбар
у гэтым і заключаецца значэньне
рэклямы.



Працяг тэмы на стар. 4-5

## *Хіт-парад бАнэраў*

Каб заманіць чытача на свае сайты вэбмайстры прыдумалі банэры. Банэры – апошні ёнк паблік-рэлэйшан, зь якімі ня могуць канкураваць старыя звычайныя мэдыя. У пэрспэктыве людзі пачнуць даведвацца пра падзеі ў свеце, чытаючы банэры. *Навінкі* прапануюць найбольш цікавые банэры тыдню.
























Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Падпісны індэкс **63439**. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@ring.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 15.05.2002г., а 00.01. Тыраж 3000 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ТДА «Знаменіе», г. Менск, вул. Кальварыйская, 24. Заказ №24

# ПАЛІТЫКА

## Навінкі ў тэстах

### Ці ў курсе вы апошніх падзеяў?

**1. Куды паехаў А.Лукашэнка на Радуніцу?**
А) На магілкі праведаць родных
Б) У Маскву да жывога мерцьвяка Б.Ельцына
В) На пікет неабыякавых да лёсу Захаранкі

**2. За што прапануюць увесьці крымінальную адказнасьць дэпутаты фракцыі ЛДПР дзярждумы Расеі?**
А) За мастурбацыю
Б) За палюцыю
В) За лесбіянства

**3. Хто каго забіў у Галяндыі?**
А) Левардыкал праварадыкала
Б) Праварадыкал левардыкала
В) Памяркоўны цэнтрыст сацыял-дэмакрата

**4. Чый сьлед шукаюць расейскія спэцслужбы ў выбуху ў Касьпійску?**
А) Чачэнскі
Б) Сьнежнага чалавека
В) Іншаплянэтнай цывілізацыі

**5. Кіраўнік якога ВІА разьбіўся ў аўтакатастрофе пад Менскам?**
А) ВІА ГРА
Б) ВІА ПЕСНЯРЫ
В) ВІА СЕКТОР ГАЗА

**6. Над журналістамі якой газэты прызначаны суд на 16 мая за паклёп на прэзыдэнта?**
А) *Советская Белоруссия*
Б) *Пагоня*
В) *Всё о футболе*

**7. За што міністэрства юстыцыі вынесла папярэджаньне Беларускаму Дабрачыннаму Фонду «Дзецям Чарнобыля»?**
А) За кантрабанду гуманітарнай дапамогі
Б) За выкарыстаньне абрэвіятуры БДФ
В) За незаконны вываз дзяцей за мяжу

**8. Што ўпала зь неба ў агарод жыхаркі Крычаўскага раёну?**
А) Мэтэарыт
Б) Мана нябесная
В) Дэкрэт прэзыдэнта

**9. Сям'я якога беларускага палітыка атрымала прытулак у Нямеччыне?**
А) Г.Карпенкі
Б) З.Бандарэнкі
В) А.Лукашэнкі

**10. Хто правёў мітынг у цэнтры Менску 7 мая?**
А) Камуністы
Б) Дэмакраты
В) Інваліды-калясачнікі

**11. У сувязях з кім абвінавачваюць прэм'ер-міністра Велікабрытаніі Тоні Блэра?**
А) З порнабаронам
Б) З наркабаронам
В) З асобамі свайго полу

**12. Якое сьвята адзначаецца 12 мая?**
А) Дзень дзяржаўнага гербу і сьцягу
Б) Дзень апазыцыйнага гербу і сьцягу
В) Дзень фізкультурніка

**13. Якое сьвята адзначаецца 15 мая?**
А) Дзень сям'і
Б) Дзень зьмяі
В) Дзень сьвіньні

**14. Куды зьехаў прэзыдэнт Лукашэнка ў сераду 15 мая?**
А) У Казахстан
Б) У Туркмэністан
В) У Кыргыстан

**Правільныя адказы:** 1-Б, 2-В, 3-А, 4-А, 5-Б, 6-Б, 7-Б, 8-А, 9-А, 10-В, 11-А, 12-А, 13-А, 14-Б.

# Экстрэмісты XX стагодзьдзя

## партызаны ці фашысты – вось дзе пытаньне




Мінулы Дзень перамогі быў вызначаны ня толькі мардабойкамі паміж анархістамі і паліцыяй па ўсім сьвеце. Расейкі прэзыдэнт, выступаючы ў Маскве на парадзе перамогі і перад ветэранамі, акрэсьліў новыя дэфініцыі фашызму. Вось, што сказаў штазі: «Только что на параде я говорил, что терроризм сродни нацизму. Так же опасен, так же бесчеловечен и так же кровав... За это у нас есть право относиться к ним так же, как к нацистам, единственная цель которых – нести смерть, сеять страх и убивать. Даже в этот день, когда мы празднуем Победу и вспоминаем погибших в войне, даже в этот день бандиты холодно и расчетливо убивают мирных людей, в том числе и детей». Такім чынам, атрымліваецца, што фашыстамі былі не халуі Гітлера, а тыя, па кім плача артыкул КК «Тэрарыстычны акт», іншымі словамі ўсе, хто «пасягае на жыцьцё дзяржаўнага або грамадзкага дзеяча з мэтай дэстабілізацыі грамадзкага парадку». Калі так, то ў кагорту паплечнікаў Гітлера можна запісаць усіх франтавікоў мінулай вайны, перш за ўсё партызанаў. Хіба яны не пасягалі на жыцьцё дзеячоў 3-га Рэйху з мэтай дэстабілізацыі нацысцкага грамадзкага парадку. Атрымліваецца, што нездарма ў акупацыйных улётках адміністрацыя называла падпольшчыкаў «бандытамі». Раім уладам РФ тэрмінова арыштаваць сябраў усіх ветэранскіх арганізацыяў і адправіць іх на нары ў Гуантанама. Тэрырызм ня пройдзе!

**Вільгельм Кубэ,**
грамадзкі дзеяч

# «Я заступаўся за АНДЖЭЛУ ДЭВІС!»

### Кулюарная барацьба працягваецца: хто ж нарэшце пераможа?

Супрацоўнік Гомельскай абласной рады ГА «БСМ» Аляксандар Аніськоў пранікся праблемамі згвалтаванай і катаванай электрашокам у турэцкай вязьніцы зьняволенай актывісткі Курдзкай Рабочай Партыі Зэйнаб Айчы і 14 красавіка напісаў адкрыты ліст Надзвычайнаму і Паўнамоцнаму паслу Турэцкай Рэспублікі ў РБ. Праўда, на БСМаўскім бланку. Турэцкі пасол расцаніў гэта як «умяшальніцтва ва ўнутраныя справы краіны» і паскардзіўся кіраўніцтву БСМ. Бюро ЦК ГА «БСМ» знайшло ў дзеяньнях Аніськова «парушэньне нормаў працоўнай дысцыпліны» (відаць гэта тое, што бланк скраў) і службовай этыкі. Зразумела – трэба ж было параіцца з таварышамі, можа ня ўсе зь іх падзяляюць нібы рыцарскія памкненьні Сашы Аніськова і лічаць, што тэрарыст і злачынца супраць турэцкай дзяржаўнасьці мусіць ня толькі быць пасаджаны ў турму, але й катаваны і згвалтаваны. Аднак, пасьля нядаўняга зьліцьця колішніх канкурэнтаў у барацьбе за офісную плошчу і бацькавыя фонды БСМ і БПСМ у адзін лукамол, афіцыйны бланк БСМ значыць ня больш чым ксіва таварыства цьвярозасьці, альбо той аркуш паперы, на якіх запарожцы пісалі лісты турэцкаму султану. Саша яшчэ можа падаць апэляцыю і патрабаваць аднаўленьня ў новай арганізацыі

**Сева Янчэўскі**

# 18 мая – Дзень народзінаў Яна Паўла II

Мэтады Касьцёлу, які будаваў духоўны сьвет шляхам паўтарэньня, заўсёды цікавілі соцыатэхнікаў – ад экстрым-палітыкаў да распрацоўшчыкаў рэклямных ролікаў, якім падабалася, што ў мазгах парафіянаў пэўныя пасажы асядалі як прапагандысцкія лёзугні і запаўнялі іх так, што яны рэагавалі на зьявы жыцьця амаль аўтаматычна. Каталіцызм цяжка ўявіць бяз постаці Папы Яна Паўла II, які пасьвіў хрыстовыя статкі амаль усю апошнюю чвэрць мінулага стагодзьдзя.

Сьвяты Айцец адзначае ўжо другі свой дзень народзінаў у трэцім тысячагодзьдзі, хаця стан здароўя Прымуса пагоршыўся настолькі, што грамадзтва не спадзявалася, што Папа дажыве да Велікодных сьвятаў па грэгарыянскаму стылю. Людзі такога кшталту жывуць ня столькі, колькі захочуць, а роўна столькі, колькі ім было адпушчана, каб выканаць пэўную місію. Відавочна, што Ян Павал II ня мог адправіцца ў апошнюю пілігрымку да нябеснага патрона, пакуль не перажыў скандалу з ксяндзамі-пэдафіламі. Перад Папам паўстала даўняя праблема – праблема адмены цэлібату каталіцкіх сьвятароў. Ці пойдзе Ян Павал II на гэта? Каб адказаць, коратка прасочым шлях вялікага Пілігрыма. Абраньне ў 1978 годзе кардынала Вайтылы ўзмацніла рэлігійна-патрыятычныя пачуцьці польскіх рабочых, што аказала ўплыў на падзеньне камуністаў. Больш таго, паводле некаторых тэолягаў (гл. С. Джонсан «Pope John Paul II» New York'1996) менавіта малітва Яна Паўла II да Багародзіцы ў 1983 годзе прывяла да распаду СССР. Больш так трапна Папа не маліўся – амэрыканскія бамбардзіроўкі Нікарагуа і Лівіі, злачынствы ізраільскай ваеншчыны засталіся незаўважанымі Прадбачнасьцю. Акрамя таго Папа Ян Павал II застаўся вядомы тым, што папрасіў прабачэньня за злачынствы сваіх папярэднікаў, зьдзейсьненыя ў імя І. Хрыста – за інквізыцыю, за крыжовыя паходы, за злачынствы місіянэраў у Акіяніі (у тубыльцаў зь Ціхага Акіяну з нагоды цяжкага стану здароўя Сьв. Айцец ня змог папрасіць прабачэньня, таму ўпершыню зрабіў гэта па электроннай пошце). Вялікую частку актыўнасьці Вялікага Падарожніка складала экумэнічная дзейнасьць і шмат здароўя было пакладзена на тое, каб наведаць маскоўскага Патрыярха, які баяўся экумэнізму як чорт Ладану, ці дакладней, як Севярынец Тарлецкага і так дбаў пра сваю чысьціню, што не спакусіўся нават іконай казанскай багамацяры, якую паабяцаў ватыканскі старац. Адмена цэлібату можа і не дапамагчы Касьцёлу набыць папулярнасьць у Маскоўскай Патрыярхіі, затое можа прывесьці да расколу ўнутры самога Касьцёлу. Але легітымізацыя гомасэксуалізму і лёгкіх наркотыкаў у касьцёле – напрыклад, Папа шле мэсыдж па e-mail з прашэньнем аб прабачэньні ўва ўсіх блакітных, ці можа далучыць да шэрагаў прыхільнікаў заходняга канону ўдзельнікаў гей-прайдаў. Магчыма, гэта расчуліць і праваслаўных іераманахаў. Што ж да праблемы з бацькамі, яны будуць ведаць, што пасылаюць дзіця ў Касьцёл, мадэрновую ўстанову з усёў выцякаючай з гэтага талеранцыяй, а не ў цемрашальскі й гомафобскі «Малады Фронт» з мачо-Севярынцамі



# Школа: ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫЯ ПРАЦЯГВАЕЦЦА



Паравая аўтаматызаваная машына для лупцоўкі дзяцей хутка ўводзіцца ў эксплюатацыю ў сувязі са скарачэньнем штату сацыяльных пэдагогаў

Усваім нядаўнім інтэрвію *Белорусской деловой газете* міністар адукацыі Пётр Брыгадзін раскрыў эзатэрыку новаўвядзеньняў, якія чакаюць нацыянальную асьвету. У прыватнасьці, плянуецца «скарачэньне малакамплектных сельскіх школ», з далейшым пераводам дзяцей і настаўнікаў у буйныя навучальныя ўстановы. Тлумачыцца, што ніякага дачыненьня да бюджэтных скарачэньняў меры міністэрства ня маюць. «Рацыяналізацыя» – вось альфа і амега ініцыятывы ўраду. Аб якім скарачэньні выдаткаў можа ісьці гаворка, калі, па словах Брыгадзіна, зэканомленыя сродкі пойдуць не на сьвятую манэтарысцкую барацьбу з дэфіцытам, а на... «набыцьцё аўтобусаў для падвозу дзяцей у буйныя школы». Гэта відавочны працяг палітыкі калектывізацыі і індустрыялізацыі. Лягічным працягам «узбуйненьня» павінна быць закрыцьцё ўсіх буйных сельскіх школ і перавод дзяцей і настаўнікаў у гарадзкія «мэдрэсэ», затым – скарачэньне правінцыйных школаў і ўзбуйненьне сталічных. Фіналам «рацыяналізацыі» школы будзе пабудова адзінага на рэспубліку Нацыянальнага адукацыйнага камбінату. Ён можа ўяўляць сабой агромны стадыён, або арэну цырку, дзе дошкай будзе вялізнае табло. Зэканомленыя ад скарачэньня колькасьці школ бюджэтныя сродкі пойдуць, як заўсёды, на набыцьцё аўтобусаў для падвозу дзяцей ●

**Мальвіна,**
настаўніца СШ № 157



ЭўрОпа

## Як стаць эўрапейцам

Некаторыя наступствы выбараў у Францыі і Галяндыі выклікалі шухер сярод палітыкаў усходнеэўрапейскага рэгіёну, асабліва тых краінаў, якія пруцца ў Эўропу. Як вядома, каб стаць сябрамі эўрапейскай сям'і ім трэба запазычыць усе інстытуты краінаў шэнгенскай зоны. Назірае за гэтым працэсам цэлая хеўра чыноўнікаў з Брусэлю. У пачатку красавіка спэцыяльны камісар EU прыбыў у Варшаву каб кантраляваць працэс уступленьня Польшчы ў структуры Эўрасаюзу. Падчас каснультацыяў зь Лёлікам ды Болекам ён адкрытым тэкстам параіў усходнім эўрапейцам браць прыклад з цывілізаваных заходнікаў і не дапускаць разьвіцьця ў сваіх краінах рухаў «левых і правых экстрэмістаў». Бо так у Эўропе ня прынята. Мясцовыя пабеглі выконваць загад цэнтру. Аднак пасьля выбараў у Францыі усё стала з ног на галаву.
Сёньня, калі правыя радыкалы становяцца нормай у Эўропе, краіны, якія хочуць інтэгравацца, павінны перагледзець парамэтры эўрапейскага «art de vivre». Каб быць адэкватным заходняй цывілізацыі, трэба культываваць у сябе праварадыкальныя партыі. Так што, эўрапейцы, зіг хайль!

**Пім Фартэйн,**
ахвяра левага радыкала

## Калі «Край» адпачывае

Ідзе апошні месяц вясны. На галінках зьяўляюцца кветкі, на дрэвах - птушыныя гнёзды. І адначасова, як пухіры на твары студэнта-алькаголіка, зьяўляюцца на тварах Менскіх унівэрсытэтаў аб'явы аб наборы валанцёраў на нейкі Полацкі Археалягічны Легіён. Напаловуаголеная цыцкастая прыгажуня пахатліва ўсьміхаецца вам з рэклямнага плякату, падсьвядома ўпэўніваючы вас, што там вы знойдзеце шмат сэксу «й усё такое». Калі вы прачыталі аб'яву й вырашылі паспрабаваць сябе на ніве археалёгіі, то перш за ўсе вам прыйдзецца прайсьці суразмову з босам мерапрыемства, малодшым навуковым супрацоўнікам ІГ АН РБ Маратам Клімавым па мянушцы «Шэф». Там вам распавядуць асновы асноў і дадуць запоўніць маленькую анкету. і калі вы згодныя, адказваеце неабходным патрабаваньням па фізычным стане і для вас ёсьць месца, вам скажуць, калі прыходзіць у наступны раз і на якую яўку.
Полацкі Археалягічны Легіён (скарочана ПАЛ)- штогадовы летнік на беразе Дзьвіны, у 12 км ад Полацку. Там, ля вёскі Лучна, у сьветлым сасновым бары схаваўся табар: пятнадцаць тэнтаў, вогнішча і доўгі стол пад навесам. Там вядуцца з году ў год археалягічныя раскопкі манастырскіх рэшткаў 16-га стагодьдзя. Кожнае лета дзьве зьмены, набраныя з простых менскіх студэнтаў, капаюцца ў зямлі ў пошуках чарапкоў, цэглы, цьвікоў, крэсал... Часам пападаюцца косткі, нават чалавечыя. Зьбіраецца вельмі цікавы кантынгент студэнтаў: ўсе нейкія, сьпевакі, мастакі: Распарадак дня даволі жорсткі. Пабудка а 8-ай гадзіне, сьняданак, а 9-й выхад на раскоп. Да 14-ай гадзіны праца на раскопе (гэта тое месца, дзе й шукаюць у глебе рэшткі старажытных будынкаў, людзей, посуду...). Шмат сонца, шмат паветра, шмат зямлі й пылу. А побач – Дзьвіна. Прыгадваючы сэксапільную прыгажуню на аб'явах, скажу, што там пераважная большасьць жаночай паловы, але 'буцца звычайна там з рыдлеўкай. Потым – абед. Ды шмат вольнага часу ажно да ночы. Адбою там не існуе, і сьпяваць песьні ля вогнішча можна аж да 9-ай гадзіны наступнай раніцы. Усё добра, але зьяўляецца пытаньне: няўжо так патрэбны Акадэміі Навук нейкі спалены манастыр у правінцыі? Чаму ПАЛаўцы не жывуць па хатах тутэйшых, а менавіта ў тэнтах? Навошта як хлопцы, так і дзяўчаты прывучаюцца піліць ды секчы дровы, прывучаюцца жыць па распарадкуі Навошта карыстаюцца не сапраўднымі імёнамі, а мянушкамі (кшталту «Доня», «Фініста», «Джоя»)? І чаму, у рэшце рэшт, «дзяржаўнай мовай» ПАЛу зьяуляецца менавіта беларуская?
Адказ можа быць толькі адзін: ПАЛ – гэта своеасаблівая імправізаваная школа партызанскай вайны, дзе рыхтуюць адборных палітычных адмарозкаў-тэрарыстаў ●

**Бацька Махно,**
агент КДБ

## Гаворыць Скаруліс...

(Агляд беларускай аналітыкі палітэмігрантам зь лягеру ўцекачоў у Бэльгіі)



Ну, вы, блін, землякі, даеце! Шэсьць гадзінаў тырчаў у Інтэрнэце, каб прачытаць хоць што-небудзь сьвежае, што-небудзь інтэлектуальнае пра родную старонку. Адбіваўся ад хахлоў, суседзяў па бараку, якім увесь час карціла палазіць у сусьветным павуціньні па крамольным парнушным «сторінкам». Так нічога і не знайшоў, лепей бы сам злазіў на хард-порна. Энцыфалаграма мозгу нацыі выдавала прамую лінію. Як я зразумеў, сама шматпакутная нацыя ад тыднёвых сьвятаў знаходзіцца ў коме. Алькагалічнай. Газэты не выходзяць, калюмністы пакутуюць ад «Нарзану». Як уяўлю сабе гэтую маліну, дык адразу настальгія абвастраецца: колькі гарэлкі выпіта безь мяне!
Застаецца толькі напружваць сваю фантазію, каб уявіць, чым займаліся скунсы пяра, зубры беларускай думкі ўвесь час майскіх сьвятаў. Ну, з Іркай Халіп усё ясна. У інтэрвію дранікам.com яна кажа, што любімае баўленьне часу – бухаць каньяк «Науры» ды чытаць дэтэктывы. А наконт сьвятаў яна выказалася ў *Белорусской газете*:




Так і бачу, як яна перагортвае апошнюю старонку Б.Акуніна, перакульвае апошнюю бутэльку каньяку, ды паглядзеўшы ў люстэрка на лішнія 10 кілаграмаў у вобласьці тазу скатваецца ў глыбокі дэпрэсьняк. Ірка, парада сябра: твая апошняя надзея – Сашка Фядута. Я недзе ў Інтэрнэце бачыў, што ў яго асабістая бібліятэка 7 тысяч тамоў. Можа, і ты знойдзеш там сабе які-небудзь комікс. Баюся толькі, што з дэтэктываў у яго застаўся адно што Мікалай Чаргінец з аўтографам аўтара.




Вось дзе інтэлігент нядзюжы. А галоўнае – ніякіх табе комплексаў пра лішнюю вагу. Відаць, рэгулярна чытае Танюху Сулімаву. Ня ведаю, што яна там ела на гэтыя сьвяты, але дакладна год таму, пасьля майскіх, у сваёй калёнцы ў *Саўбелцы* Танька таксама грузіла пра пахуданьне. Тут і Шэрлакам Холмсам быць ня трэба, каб зразумець, што перагуляла на пікніках, шашлычкоў пераржэрла да ікоты. Як мая любімая ды-джэіха толькі іх не спрабавала зь сябе вытравіць: клізмы, антыцэлюлітныя нагавіцы, сныкерсавая дыета, яблык замест вячэры - нічога не дапамагло. і яна прыйшла да цудоўнай высновы.




Для маіх цэнтнера з гакам 100-80-100 - гэта проста худышка. Так што, Танюха, калі раптам сныкерсавая дыета падвядзе, давай ка мне - пасябруем! А ўвогуле ад
Ад усяго прачытанага ў мяне пачаўся стрэс: стала відавочна як далёка наш beau monde ад народу. Дзе аўчынны тулуп, дзе юродствуюшчыя Львы Талстыя, дзе народнічаскі пафас. Калі б сярод згаданых разначынцаў быў хоць адзін, хто дыша ў унісон з бацькаўшчынай, ён павінен быў бы адмарозіць наступнае: «А, ё... т... м... якія сьвяты, якія фітнэс-клубы, якія Уіяльямсы, сам ты Уільямс, казёл. Картоплю трэба на майскія саджаць а не ізвілінай драчыць». І дыхнуў бы чарнідлым перагарам. Вось які быў камэнтар, дастойны сапраўднага нацыянальнага прарока, зьвязанага эластычнай вузай-пупавінай з роднай глебай. Памятаючы гэта, я таксама набыў пакецік бульбяных чыпсаў Estrella. У гэтыя майскія дні трэба быць з народам! ●

**Арсень Скаруліс,**
былы адвакат

# КАНСКІ ЛЕЎ –

**17 мая канцэртную залю «Мінск» акупуе штогадовы міжнародны фэстываль рэклямы «Канскія львы». Хутка беларускія аматары прыгожага змогуць углыбіць у крэслы свае ўходжаныя ягадзіцы і вылупіць вочы на 100 лепшых рэклямных ролікаў 2001 году.**

«Канскія львы» – гэта ня столькі чарговая тусоўка прафэсіяналаў ад маркетынгу, дзе абмяркоўваюцца апошнія трэнды рэклямнага рынку, колькі масавае моднае шоў для тых, хто лічыць рэкляму за спэцыфічны жанр мастацтва. Некалі, у 50-я гады, Канскі кінафэстываль асеміяніў рэклямістаў – заснавальнікаў «ільвоў». Тыя ў выніку нарадзілі ідэю, што кліпы, якія запрашаюць народ пхаць у сябе «Тампакс» і «Мясушко», суць творы сучаснага мастацтва, дастойныя лепшых кінастужак Пташука і Фэліні. Ці значыць гэта, што калі ты ў мэтах інтымнай гігіены выкарыстоўваеш ліст старой *Из рук в руки* ці *Ва-Банкъ*, то гэтым нявінным жэстам рызыкуеш несьвядома асквярніць цэлыя пласты сусьветнай культурнай спадчыны? Напэўна, не. А ў чым тады мастацкая вартасьць рэклямы? Давай паспрабуем разам адказаць на гэтае пытаньне.

У старажытнасьці, гадоў дваццаць таму, нашыя продкі амаль ня ведалі сапраўднай рэклямы. Шэрыя бэтонна-цагляныя краявіды, іржавыя трубы сьмярдзючых заводаў і аблезлыя вывескі ананімных аб'ектаў грамадзкага абслугоўваньня кшталту «Гастроном № 17» складалі значную частку іхнага экзыстэнцыяльнага гештальту. Сумна і нешчасьліва поўзалі нашыя прашчуры па крамах, дзе сыр, сардэлькі і вопратку ім заварочвалі ў аднолькавую агідную шэра-карычневую паперу, а сандалі і шлёпанцы засоўвалі ў аднолькавыя шэра-карычневыя каробкі. Адзінае, што надавала сэнс існаваньню гэтых людзей, была дзяржаўная прапаганда, якая абяцала ўсім адну сьветлую будучыню камунізму. Хутка гэтай шыркі ня стала і ў першабытных беларусаў пачалася ідэалягічная ломка. Таму абільны панос рэклямы пачатку 90-х гадоў быў успрыняты як замяняльнік-мэтадон савецкаму агітпропу.

Рэклама хутка запоўніла нішу былога «ідэалягічнага, эстэтычнага і духоўнага выхаваньня» насельніцтва. Гэта бачна па тэрміналёгіі, якая сёньня абкружае індустрыю кліпаў, банэраў, цалафанавых пакетаў і тытунёвых дзяўчынак на роліках. Сама рэклама ўсё часьцей велічаецца словам «грамадзкая камунікацыя», а тыя, хто гарбацяць у гэтай сфэры, атрымалі тытулы «крэатараў»(сучасны эквівалент савецкай «творчай інтэлігенцыі»?), «арт-дырэктараў» і да т.п. мянушак. Анонсы, афішкі і ролікі стракацяць рэвалюцыйнымі слоганамі, што абяцаюць ашчасьлівіць сьвет тут і зараз: «Новая степень свободы – Интернет-банкинг!», «SAAB – чувство безграничной свободы. Теперь и на земле», «Philips – изменим жизнь к лучшему!», «Winston – полная свобода»:

Пры гэтым хаваецца «боскае прызначэньне» рэклямы: прадаваць і стымуляваць спажывецкія рэфлексы. Але на «Канскіх львах» прызы раздаюцца зусім не за эфэктыўнасьць узьдзеяньня на чалавечую сьвядомасьць. Быццам усе свае цуды «крэатары» стругаюць не дзеля гэтага, а каб бескарысьліва падараваць гледачу эстэтычны аргазм. Менавіта гэта спрабуе давесьці сэньёр Алів'ера Таскані, былы загадчык аддзелу рэклямы фірмы «Benetton»: «Рэклама, накіраваная на прадукт, устарэла. Фірма павінна мець душу, а ня толькі прадаваць сваю прадукцыю. Рэклама будучыні будзе паказваць сьветапогляд прадпрыемства». Калі гэта праўда, то законна патрабаваць пераводу ў жанр «мастацтва» іншых тэхналёгіяў ўзьдзеяньня на чалавека, ня толькі псыхічнага, але і фізычнага. Уяўляецца фэстываль-конкурс «Менскія ластаўкі», дзе віртуозы сталічных РУУС і ротаў АМАП, а таксама замежныя «арт-дырэктары» атрымоўваюць залатыя, срэбныя і бронзавыя статуэткі за самае прыгожае катаваньне ў розных намінацыях і стылях.

Ці зьяўляюцца параўнаньні прыцягнутымі за вушы? Не такая ўжо рэклама «мяккая і пушыстая», як яе спрабуюць прэзэнтаваць нашы СМІ, гуляючы ачком перад пагрозай страціць крыніцы свайго фінансаваньня. Да вядомых «подзьвігаў» тытунёвай і піўной рэклямы сярод падлеткаў дадаецца нядаўні квазі-трыюмф фашыста Ле Пэна на прэзыдэнцкіх выбарах у Францыі. Самі журналісты (напрыклад, тэлеканалу France 2, Radio-France) прызналі, што залежнасьць ад рэклямы прымушае іх раскручваць нават самыя адыёзныя фігуры ў якасьці матыля для спажыўца. У Лацінскай Амэрыцы сацыёлягамі добра вывучаная роля рэклямы ў росьце гвалту і злачыннасьці сярод бедных слаёў насельніцтва праз стымуляваньне спажывальніцтва і канкурэнцыі.

Часткова ўсьведамляючы пэдагагічны эфэкт камэрцыйнага крэатыву, многія краіны ідуць на радыкальныя абмежаваньні права на мэнтальную эксплюатацыю. У Швэцыі фактычна забароненая дзіцячая рэклама (экспэрымэнтальна даказана, што дзеці да 10 год увогуле няздольныя адрозьніць рэкляму ад звычайнай інфармацыі) і вядомы пэдафіл Роні МакДональд вымушаны цяпер задавальняцца зазываньнем дарослых дзядзек у свой «макдрайв-клюб». Амэрыканскія студэнцкія асацыяцыі вядуць барацьбу супраць засільля «спонсарскай» рэклямы ў школах і ўнівэрах. У нас жа «лібэралізацыя» толькі пачынаецца і рэклама пакуль ня страціла свайго постсавецкага німбу. Што ж, калісьці францускі дасьледчык рэклямы Франсуа Брюн сказаў: «Рэклама – гэта мастацтва ствараць у разумных людзей рэфлексы ідыётаў». Чым не дэвіз для «Канскіх львоў»? ●

**Баніфацы Канскі**

**Крама спартовага адзеньня «Спорт-мастер» засьвяцілася рэклямай, дзе велікан, ліліпут і сабака абутыя ў модныя красачы. Падтэкст: нават апошні ўрод знойдзе ў нас нешта пад сваю нестандартную камплекцыю. Выдатны спосаб паказаць разнастайнасьць і індывідуальны падыход да спажыўца – якасьці, акружаныя арэолам абсалютнага блага (гл. малюнак). З другога боку, гэткая рэклямная стратэгія вырашае супярэчнасьць паміж тэндэнцыямі сусьветнага рынку і патрабаваньнямі спажыўца. Першы (у выглядзе транснацыянальных карпарацыяў, што прадстаўленыя ў «Спорт-мастер») цягацее да стандартызацыі і аднастайнасьці прадукцыі ва ўсім сьвеце (мадэль McDonald's), другі (канкрэтны пакупнік) жадае выдзяліцца з агульнай масы. Вырашэньнем супярэчнасьці зьяўляецца навязваньне аднаго і таго ж стандартнага прадукту ў розных сацыяльных ролях і пэрсанажах. Крэатыўная парада Аляксандру Рыгоравічу: «правы чалавека» – гэта ерунда, каб дыктатура ня лезла ў вочы, проста сьмялей вызваляйцеся ад застылага іміджу. Лібэралу патрэбны прэзыдэнт-манэтарыст у акулярах і модным касьцюме, кансэрватыўным жанчынам і гомасэксуалістам – прэзыдэнт-мачо, вэтэранам – прэзыдэнт-мілітарыст, тынэйджэру – прэзыдэнт у бэйсболцы і джынсах, а нацыяналісту – прэзыдэнт у сарочцы з арнамэнтам. Як паказвае рэклама «Спорт-мастер», зрабіць гэта – як два пальцы.**

**Кандытарская фабрыка «Спартак» гэтак рэклямуе свой порысты шакалад: уначы маленькаму хлопчыку бацькі падкладваюць плітку шакаладу. Пакуль дзіця дрыхне, у комнату прыходзіць наняты вытворцам карлік, які маленькім насосікам надувае плітку. Раніцай отрак прачынаецца і, не пасьпеўшы пачысьціць ратавую адтуліну, пачынае жорці салодкае. У экстазе ён бяжыць да таты з мамай, каб скарміць ім недаедзеныя рэшткі пліткі. Апошні кадр паказвае сямейную ідылію, створаную дзякуючы набыцьцю і сумеснаму прыёму ўнутар прадукцыі ААП «Спартак».**

**Сямейныя каштоўнасьці і грамадзкае адзінства – вось фалас, на які нанізана ўзьдзеяньне азначанага відэаролiку. Згодна з рэклямнай ідэалёгіяй, гэта безумоўна добра, нават калі за «адзінства» трэба плаціць.**

**Няважна, пры дапамозе чаго гэтыя каштоўнасьці захоўваюцца і аберагаюцца. Як вядома, традыцыйна інтэгруючым фактарам на сямейным узроўні ва ўсіх народах зьяўлялася рытуальнае спажываньне алькаголю і наркатычных рэчываў («трубка міру», «царкоўнае прычасьце», традыцыі застольля). Сучасныя прадукты спажываньня дублююць і падмяняюць гэтую функцыю алькалёідаў. Пры гэтым важна, каб пасрэднікамі прычасьця выступалі дзеці – заклад і сэнс сямейнага альянсу.**

**Эксплюатацыя непаўналетніх магла б саслужыць добрую службу пры дзяржаўнай прапагандзе. Нездарма Гітлер, Сталін пазіравалі перад папарацы з малым на руках, а ня з Гэбэльсам і Міканянам. Формула: палітык + дзіця = даўгавечнасьць і пазагістарычнасьць рэжыму. Болей дзяцей! Перад вамі прыклад «МакДональдсу» і «Спартаку».**






Дзе а
www.canne
http://adb
www.comm
www.adfor

## РЭКЛЯМА

# ЦАР ЛЮДЗЕЙ

«Археолягі кажуць, што ў Дзеднава людзі жылі яшчэ ў II ст. Некаторыя сьцьвярджаюць, што яны ўжо тады ўмелі варыць піва...» Рэклямная кампанія бабруйскага піва «Дедново» выбітная тым, што ў ёй новаму прадукту прыклейваюць «карані» аж ад каменнага веку (судзячы па этыкетцы на бутэльцы, беларусы пісалі на камянях кірыліцай ужо 2 тыс. гадоў таму). Стратэгія асабліва выгодная для небагатага правінцыйнага прадпрыемства, бо дазваляе апраўдаць («натуралізаваць») дапатопнае абсталяваньне завода і балотны прысмак піва. Маўляў, гэта не недахоп грошай на мадэрнізацыю, а адпаведнасьць традыцыйным рэцэптурам продкаў. Нават адмыслова крывая этыкетка «Дедново» стымулюе фантазію урбаністычнага спажыўца (хучэй «беднага», чым «багатага»), расчараванага сэрыйным шырпатрэбам. Усяго за паўтысячы рублёў ён можа ўявіць сябе ў сьвеце рамантычнай архаікі, дзе ўсё, нават этыкеткі і штрыхкоды, рабілі ўручную. У кантэксьце лібэралізацыі, «архэалягічная» рэклямная стратэгія – падарунак для беларускага Міністэрства аховы здароўя, падобна таму, як гэта робяць расейскія падаткавыя органы ў мульціках пра княгіню Ольгу і г.д.. Каб заставіць насельніцтва прыняць скарачэньні бюджэту і платную мэдыцыну, яму можна расказваць прыгожыя легенды аб II ст., калі людзі шчасьліва жылі ў пячорах, ня ведаючы ані дзяржаўнай мэдыцыны, ані флюраграфіі, а, захварэўшы, хадзілі да шамана-валхва, які даваў ім існіць чароўнага эліксыру з сваіх цялесных сокаў. А тыя потым падносілі дары багам. І слоган: «Платная мэдыцына ўласьцівая чалавечай прыродзе!»

Адзеты з іголачкі каміваяжэр прапануе жыльцам падъезду абзавесьціся сыстэмай «Зачынены пад'езд» (прасьцей жалезнымі дзьвярыма, кодавым замком і дамафонам). Эмпірычна ведаючы недахопы сыстэмы (грукат дзьвярэй і тэхнічную ненадзейнасьць), абарыгены дружна кажуць: «Засунь свой дамафон сабе ў ж...». Целек паказвае як пакрыўджаны каміваяжэр кульгае за далягляд. Наступны кадар: пад пазыўныя «Муркі» злодзеі выносяць з пад'езду хатні скарб нефармальнага лідэра жыхароў. Гучыць доўгі працяжны енк уласьніцы скрадзенага дабра. Матрыярхальны важак абшчыны жыхароў зьбірае сойм і схіляе веча да набыцьця пакета паслугаў правайдэра сыстэмы «Зачынены падъезд». Мэтад узьдзеяньня: спажыўцу рэклямы казычуцца прымітыўныя фобіі і забабоны (ува ўсім вінаватыя чужынцы, якія скрозь бамжы, алькаголікі і злачынцы). Рассаць жах можна вельмі проста, набыўшы тэхнічны сродак, які кантралюе ўваход у пад'езд. Дадзеную мэтоду – эксплюатацыю архаічных жахаў (перад чужынцам, хваробай, прыродай, новым і г.д.) у палітыцы ў асноўным выкарыстоўваюць ультрапраправыя, напрыклад гал Ле Пэн. Фюрэр Нацыянальнага Фронту падобны да прадаўца сыстэмы «Зачынены пад'езд», які агітуе адмежавацца ад іншародцаў і прапануе запатэнтаваны і надзейны сродак. Калі азначаная сацыяльная рэкляма – гэта мікрапалітычны ўзровень беларускай дзяржаўнай ідэалёгіі, на макрапалітычным паверсе тую ж ролю выконвае прапаганда барацьбы зь нелегальнай міграцыяй.

Якая сувязь паміж дрэннай звычкай лузганьня семак і маладзёвай субкультурай хіп-хопэраў? Самая прамая, – сьцьвярджаюць аўтары анімацыйнага рэклямнага ролiку «Семочки». Пэрсанажы мультфільму займаюцца паўсядзённым тынэйджэраўскім расьпісяйствам: катаюцца на скейтах, малююць графіці на сьценах і электрычках і тусуюцца з такімі сама разбэшчанымі аднагодкамі. Пры гэтым яны ўвесь час жуюць смажаныя насеньне сланечніку і харкаюць на асфальт шкарлупкамі. Розніца паміж кустарнымі семкамі ў газэтным кульку і семкамі ў фірмовым пакеціку толькі адна: у прыналежнасьці да розных субкультур. Такім чынам, на любы прадукт можна падчапіць любога чалавека праз стварэньне ассцыяцыі прадукта і асяродзьдзя. Нават мыла «Камэй» можна ўцюхаць бруднаму панку, калі па глуздах яму рэгулярна біць ролікам: дзе яго сабрат трапляе ў крутую тусоўку парыскіх панкаў, дзякуючы дзіўнаму парфюму мыла «Камэй-элеганс». У палітыцы гэты ноў-хаў можна задзейнічаць Лукашэнка пры прапагандзе сваей мадэрновасці, вельмі неабходнай яму ў кантэксьце зьмены пакаленьняў. Раім часьцей зьяўляцца на першым музычным канале ў кампаніі Сашы і Сярожы.

### гэтым можна даведацца болей:

on.com — афіцыйны сайт фэстывалю «Канскія львы».
er.org — сайт радыкальных супраціўнікаў рэклямы.
cialfree.org — сайт амэрыканскіх супраціўнікаў рэклямы ў школах.
.com — завумны сайт па вывучэньні фэномэну рэклямы.

# Ці можна ўспрымаць паэзію без алькаголю?!

*Учорашнія зоркі бел..літ. Зьміцер Вішнёў і Адам Глёбус займаюць чаргу, каб пацерці сьпінку новаму геню беларускага Парнасу Андрэю Бурсаву*



**У Менску адбылася прэзэнтацыя кнігі Бурсава «Дзівін». Наш карэспандэнт таксама зайшоў на агеньчык.**

***Эпіграф 1***

*Уманяу, уманяу*
*Уманяу, уманяу*
*Энлендите, бететон!*
*Энлендите бенетон!*
*Горбонове реткос!*
*Горбонове реткос!*
*К.Чуковский «От двух до пяти»*

У будынку ЕГУ, дзе адбывалася прэзэнтацыя, было душна, на другім паверсе сьмярдзела віном, разьлітым у аднаразавыя белыя стаканы, шматлікія каляровыя шарыкі стваралі атмасфэру дзіцячага ранішніку, невысокая жанчына ў клетчатай спадніцы , стоячы перад закрытымі дзьвярыма, аддавала апошнія інструкцыі на фоне званкоў мабільнікаў. Публіка вяла абмахвалася белымі папкамі і раптам дзьверы распахнуліся: «П:ц», — мой мозг мяне не падвёў і выдаў звычайную рэакцыю на незразумелае. Уся падлога была усланая ашмёткамі газэты «Народная воля», зрэдку трапляліся кавалкі разьлічанай на шырокія масы маргіналаў газэты «Из рук в руки». На сьценах віселі фотакарткі, з адной зь якіх глядзеў уладар арыстакратычнай рожы Дэвід Боўі. Грала музыка і нейкая адвязная дзявіца з кароткастрыжанымі валасамі, пафарбаванымі ў белы колер, танчыла ў абдымку з хлопцам. Гэта было гэтак жа дарэчы, калі б яны сталі займацца гэтым у 1953г. на пахаваньні Сталіна. У глыбіні залы ён - Паэт. Да яго прыйшлі людзі, гэта ён прадстаўляе сёньня сваю кнігу. Адныя зь першых да яго прабіліся прадстаўнікі кампаніі СТВ, што ўвесь час кідаюць выклікі вялікаму мастацтву сваімі нуднымі інфармацыйнымі застаўкамі. інтэлектуальная атмасфэра накалілася, калі нейкі бард выхапіў гітару і зь мімікай сэрыйнага забойцы стаў крычаць пад музыку слова «Маніякальнае!». Я адвярнуўся і выйшаў.

***Эпіграф 2***

*Са відзітватха бхараманас там*
*Нірбандхам вікармані натва*
*«Шрыдад бхагавам»*

Пасьля мне прысьніўся сон. Па Гогалю. Быццам бы беларуская літаратура памерла і ў сваім апошнім завяшчаньні выказала апошнюю волю: «Нікаму не давайце чытаць па мяне, аднак дашліце адразу за Андрэем Бурсавым. Няхай тры начы моліцца па душы маёй. Ён ведае...». і вось, прыводзяць Андрэя Бурсава ў Дом літаратара. У труне ляжыць цудоўная дзяўчына, адзетая ўва ўсё бел-чырвона-белае. Андрэй падыйшоў да сцэны, дастаў сваю кнігу і пачаў чытаць. «Чаго баяцца, — думаў ён між тым сам пра сябе. - яна ж з труны ня ўстане». і раптам яна ўстала і... ідзе да яго з зачыненымі вачыма і расстаўленымі рукамі. У жаху Бурсаў акрэсьліў вакол сябе кола, не перастаючы чытаць свае вершы:

іршавы томік грыляваў
цаглінай гарцы па штрассе
мы зустракаліся з табой
вяталі булкай па крысе.

Яна стала амаль на самай мяжы кола; было бачна, што ня ў сілах яе пераступіць, уся пасінела як чалавек некалькі дзён назад памершы. Раптам зала пачала напаўняцца стлеўшымі прывідамі Купалы, Коласа, Багдановіча, Цёткі. Патупіўшы вочы ў кнігу Андрэй стаў чытаць гучней:

шкументы б зьдзіўленяў ў кавалках ня-нет
дзюркам акрамоскі б маіх зачаравнеь

Нячыстая сіла лятала вакол яго.

– Прывядзіце Шамякіна! Ступайце за Шамякіным, – раздаўся голас нябожчыцы. Яго прывялі пад рукі і прама паставілі да таго месца, дзе стаяў Бурсаў.

–Падыміце мне векі: ня бачу! – сказаў падземным голасам Шамякін..

Я прачнуўся ў халодным пату і заняўся звычайнымі справамі. Тых, хто не знайшоў у артыкуле адказу на пытаньне, пастаўленае ўверсе, інфармую - пытаньне рытарычнае ●

**Чалавек-слон**

## ЛЕпшы падарУнак!

**Navinki Home Video прэдстаўляют СЛУЧАЙ З ПАЦАНОМ.**

Юра, нармальны пацан з раёна, сорыцца са сваёй малой. У поіске душэўнага спакойствія он рашает устроіцца как усе на работу. Аднака на пуці Юры вазьнікает прэкрасная незнакомка Насьця, акцівістка адной зь дземакрацічэскіх арганізацый. Юра ўзнает, што ў стране сушчэствует какая-та апазіцыя, каторая борэцца з какой-та там дзіктатурай. Сам таго ня зная, глаўны герой пападает у самую гушчу паліцічэскіх інтрыг...

**Усім, хто жадае набыць фільм на відэакасэце, просьба зьвяртацца праз нашыя кантакты:**

**Адрас: 220134, Менск, п/с 33**
**E-mail: maryska@tut.by**

**СЬПЯШАЙЦЕСЯ!**




## Клясавая піраміда культурных падзеяў беларускага грамадзтва за апошні тыдзень




## Куток спажыўца

# Бурштын Беларусі

***Навінкі* прапануюць чытачу компас у моры спажывецкіх тавараў. Нашы экспэрты дапамогуць вам не заблукаць у багацьці паліцаў беларускіх крамаў. Гэтым разам пра піва.**

**ГЕДЕМИН** - напой (ня будзем называць гэта півам) вытворчасьці Лідзкага заводу. Першае ўражаньне: можа, яно хоць карыснаеі Па смаку вадкасьць нагадвае піва, разбаўленае моркаўным сокам. Нашыя экспэрты таксама патэлефанавалі па нумарах, пазначаных на этыкетцы, каб даведацца, адкуль такая дзіўная назва. іх паспрабавалі ўпэніць, што напой названы ў гонар вялікага князя Літоўскага пры якім быў пабудаваны Лідзкі замак. Гэта чарговая спроба вытворцы ўвесьці спажыўца ў зман. Гісторыя не захавала ніводнага сьведчаньня пра князя Гедеміна. Вядомы толькі князь Гедымін (Гедимин - русск.), правільнае напісаньне імя якога можна знайсьці ў любым даведніку па гісторыі для алігафрэнаў-абітурыентаў рагачоўскага СПТВ №2.

**ДЕДНОВО** - не накаліцеся: пад новым лэйблам хаваецца звычайнае піва Бабруйскага бровару. Пранырлівыя мэнэджары чамусьці вырашылі, што добрую рэч бабруйскім півам не назавуць і прыдумалі новы брэнд. «Дедново - для богатого и для бедного», - толькі й чуеш на кожным кроку. Яшчэ трошкі й у гэта паверацьнават самі распрацоўшчыкі рэклямы, адмовяцца ад сваіх звычайных «Балтыкі» й «Абалоні» на карысьць бабруйскага соладавага напою. Са свайго боку, нашыя экспэрты могуць тоькі дадаць, што хоць ты яго «Гінэсам» назаві, якасьць ад гэтага ня зьменіцца.

**МИНСКИЙ БРОВАР** - знакамітая марка вытворчасьці Менскага заводу «Аліварыя» (est. 1864). За апошні час завод зрабіў вялікі крок наперад. Яшчэ пару гадоў таму цяжка было загадзя сказаць, якую мачу вытворцы паспрабуюць выдаць за піва. Цяпер можна сьмела раіць спажыўцам увесь асартымэнт гэтага бровару. Трымаць марку прымушае й слаўная гісторыя заводу, заснаванага яшчэ ў пазамінулым стагоддзі. Захавалася апакрыфічнае паданьне пра апошні дзень слаўнага сына беларускага народу Кастуся Каліноўскага, павешанага ў Вільні 10 сакавіка 1864 году. На пытаньне графа Мураўёва, якое будзе ягонае апошняе жаданьне, Каліноўскі адказаў: «Маляву з-пад шыбеніцы карашам я ўжо перадаў. Эх, трахнуць бы зараз Марыську-чарнаброву, галубку маю. Але паколькі гэта немагчыма, то сыйдзе й глыток «Аліварыі» ●

**Граф Чапскі,**
экспэрт

## Ліст

# Іхныя норавы

Шаноўная рэдакцыя!

Піша вам з ЗША сям'я Марозавых напярэдадні 1 чэрвеня, сусьветнага Дня абароны дзяцей. Мы звычайныя беларусы з Малінаўкі, што выйгралі грын-карт. Радасьці тады было - поўныя штаны. Думалі: нарэшце зажывём пачалавечыскі й сынок наш, Паўлік, вырасьце ў дастатке. Але зараз зьбіраемся вяртацца. Трэба ратаваць рабёнка. Вы ўжо знайдзіця нам, калі ласка, у Менску якую-небудзь школу для нашага бэйбуса. Галоўнае, каб там дзіцям не дурылі мазгі ўсякімі правамі чалавека. Але пра ўсё па парадку.

Прыехалі мы, значыцца, у гэтае Чыкага, пайшлі рабіць на завод, а сынка нашага аддалі ў школу мясцовую, дзе адны нэгры ды лацінасы (гэта як у нас цыгане). Настаўніца там замест табліцы ўмнажэньня далдоніць дзень і ноч ім пра правы дзіцёнка, а нэгры ды лацінасы гэтыя (ну вылітыя цыгане, а галоўнае паміж собку толькі па няруску й лапочуць) вучаць свайму. Ну, наш заўсёды быў хлапец кемлівы, не дзярэўня якая-нібудзь, гарадзкі, ён і навучыўся. Аднойчы бацька прыходзіць са зьмены, а наш зачыніўся у прыбіральні, узяўшы ў закладнікі хатняга хамячка, і гразіць паскуда, што хамячка ва ўнітаз спусьціць, калі мы яму новыя джынсы ня купім. Вось жа ж прыдумаў! У старых (10 баксаў за іх на Дзінама вылажылі!) яшчэ ніводнай дзіркі, а яму новыя падавай. Ну бацька вызваніў мне на працу, сарваў з начной, і пачалі мы малага ўгаворваць. А ён хоць бы хны, спушчу, кажа, хамячка, ня дрогнуўшай рукой і на пядальку змыва націсну. Прыйшлося дзьверы вышыбаць. Ракавіну новую разьбілі, але хамячка выратавалі. Вядома ж сынава срака ў той вечар была біта. Гэта ж нада такое прыдумаць, бін Ладэн хрэнаў! і што вы думаецяі На наступную раніцу выправілі яго ў школу, забіраем пошту, а там ліст. На капэрце почыркам нашага балбеса адрэса па-англійску, нейкаму district attorney. Ну, мы па-іхнему пакуль яшчэ слабавата, таму папрасілі тут мясцовых хахлоў перакласьці. Аказалася, гэта наш Паўлік акруговаму пракурору на нас настрачыў, што мы груба зьневажаем ягоныя правы, зьбіваем яго на мачоны яблык. Дык ён патрабуе прыняць да нас меры. і фотакартку (ёсьць у іх такая цацка, Паляроід завецца) сваёй сракі як доказ прыкладае да ліста. Добра, хоць мы яго прачыталі раней. Ну, мы, канешне, яго са школы ў той дзень забралі ды макіяж на ягонай дупе аднавілі.

Дарагая рэдакцыя! Не маглі б вы нам напісаць, як, слова такое ёсьць складанае, рэпатрыявацца ці што, назад у Беларусь. Няма ўжо моцы тут жыць. Гэта добра, што наш прэзыдэнт усе гэтыя іхныя правы чалавека да нас на ганак не пушчае. Жылі бязь іх і далей неяк бязь іх пражывём.

**Сям'я Марозавых**

## Як адцягнуцца...

### Пад нудоту

**21.05, палац рэспублікі. Вечар блатняцка-афганскіх песенек пад умоўнай назвай «Ты яшчэ крэпкі стары, Розэнбом!».** Да сцэны не падыходзіць, сыплецца пясок!
**23.05 Наведнікаў КЗМ гвалціць гурт ЧАЙФ с сэйшэнам «Памаранчавы настрой».** Праграму з гэтай назвай старычкі возяць ужо амаль дзесяць год... Ой-ё-ё-ё!

### Па соцрэалізму

Для сапраўдных гурманаў, аматараў крутога соцрэалізму – **культавая выстава «Міфы і рэальнасьць савецкага мастацтва 40-70-х»**. Месца сустрэчы – **Мастацкі музэй між Дынама і Нацбанкам.**
А ў **музэі сучаснага выяўленчага мастацтва** выстаўляюцца паедзеныя нафталінам **польскія плякаты 1956-1965 г.** Усё крута, але зьвярніце ўвагу на профіль музэю.

### Па постпанку

**28.05** Легендарны адмарозак **Пётр Мамонаў** прыязджае ў Менск. І не з гуртом ЗВУКИ МУ, а **са спектаклем «Шоколадный Пушкин»!** Месца дзеяньня таксама не з занудных – **клюб КДБ, побач з вядомай тусоўкай «у Фелікса».**

### Па-эстэцку

**28.05. У КЗМ лабае гарная дзеўка з электраскрыпкай – Ванэса Мэй.** Квіткі ломяць да стольніку баксаў за пару гадзінаў выступу. Рух да званьня сэкс-сымбалю клясычнай сцэны адбываецца семямільнымі крокамі!

### Па-мажорску

**24.05** адбываюцца адразу два канцэрты некалі любімых мажорнай моладзьдзю, але шчыльна забытых каманд. **У «Графіці» лабае ПАНІ ХІДА, а ў «Рэактары» каманда пад назвай ЛЮБОВЬ И СПОРТ** (кулюарная мянушка ЛЮБОВЬ И СПИРТ) прэзэнтуе свой... дэбютны альбом. Ха, я думаў, яны ўжо разваліцца пасьпелі!

### Па рэпу

**18.05 моладзевы тэатар эстрады (Маскоўская, 20 – недзе блізу «кулька»). Хіп-хоп фэст «Люстра вуліц»**, з удзелам усіх жадаючых. Прыкольная фішка – каб паўдзельнічаць, трэба ня толькі зарэгістравацца па тэлефоне 255-39-63, але й набыць уваходны квіток. Радыкальная, але вельмі лягічная палітыка – мастацтва ня мусіць быць камэрцыйным!
А **19.05** маладыя, але амбітныя беларускія рэперы пануюцца пад крутых жыхароў нэгрыцянскага гета **ў маладэчанскім клюбе «Рыф»**. Панты кідаюць **МРАЧНЫЕ ЛИЦА, ДУХИ ЛЕСА, ЛЕДЯНОЙ ЗАКОН, ДО УПОРА і інш. Галоўны удзельнік – CAMPOS.**

**Санітар,**
культурны футуроляг

# Каўказ, спецназ і дзерабас

## *выберы ліцэнзійную копію*

Адзін квіток на вайну, калі ласка, – я працягваю касіру грошы і ўжо праз пару хвілін адчуваю сябе нібыта ў мясной лаўцы: з экрану мне прапануюць рагу з адрэзаных галоў, пальцаў і вушэй. Гэта новы шэдэўр расейскай кінематаграфічнай думкі – фільм А.Балабанава «Вайна». Стужка, безумоўна, будзе памацней усялякіх там «Спецназаў», «Блокпастоў» і «Мянтоў у Чачні». Сюжэт фільму дасьціпны нават заўзятаму прапаршчыку: былы дэсантнік Іван дапамагае небараку англічаніну вызваліць з чачэнскага палону нявесту Маргарэт, а разам зь ёй і паралітыка-капітана Мядзьведзева. Пры гэтым гіне некалькі цывільных чачэнцаў, аб чым англічанін даводзіць міжнароднай грамадзкасці, і Івана садзяць за краты як ваеннага злачынцу. Па сваім жанры фільм нагадвае клясычны амэрыканскі вэстэрн 30-х-50-х гадоў, толькі замест дрэнных «чырвонаскурых» у ім фуліганяць дрэнныя «чарнажопыя» (глядзі артыкул «Як быць чачэнцам»). Ёсць, безумоўна, у стужцы і станоўчы герой – расейскі народ-праўданосца ў асобе «бледнатварага»







Як адрозьніць пірацкую копію ад ліцэнзійнага відэа: Кадар зьлева: пасьля выбуху добра відаць рэшткі загінуўшага байца. Кадар справа: пасьля выбуху засталася толькі варонка, а байца як і не было

эўрапеоіда-сібірака Івана. Прычым моц па-балабанаўску ўжо ня толькі ў праўдзе, але яшчэ і ў мужыках (?!). Гэтую даволі туманную ісьціну даводзіць гледачам галоўны мачо пост-савецкага кіно Уладзімір Гасьцюхін, па фільму таксама паралітык (нешта зашмат у Балабанава паралітыкаў, і ўсе любяць пра моц паразважаць). Сапраўды, жанчынам у фільме адводзіцца зусім непрыкметная роля, яны амаль і ня кажуць нічога. Ствараецца ўражаньне, што жанчыны патрэбныя толькі каб падаваць гарбату ды падносіць патроны. Маўляў, маўчы, скво, калі сапраўдныя мужыкі высьвятляюць адносіны, і хай усе айчынныя фэміністкі палопаюцца са злосьці! Як тут не прыгадаць дзядулю Фрэйда, які сьцвярджаў, што калі ў самца-гамадрыла ня ўсё добра з палавым жыцьцём, то ён пачынае цягнуцца да дубіны, крамнёвай сякеры ды яшчэ да ўсялякіх там мілітарысцкіх субліматараў. Гэты факт адлюстроўвае любоўна зьнятая сцэна выбару зброі галоўнымі героямі ў маскоўскім буціку для страляючых цацак.
Сацыяльны заказ фільму зразумець ня цяжка: давесьці Пуцінскі тэзыс аб тым, што вайна ў Чачні вядзецца ў рамках міравой антытэрарыстычнай кампаніі. «Гэта не мая, а твая вайна», – кажа Іван ангельцу.
Стужка мае ўсё, каб стаць хітом: ідэя аб тым, што рускі Іван лепшы за ўсіх у сьвеце, добрыя спэцэфэкты, саўндтрэк СПЛІНУ, БІ-2, Бутусава. Слава забыўся на «Шарык колеру хакі» і зараз сьпявае за крывавае бабло пад дудку Міністра абароны. Здаецца, усё як ў «Браце-2», але нешта не працуе. Пасьля прагляду застаецца пачуцьцё мярзоты. Пэўна, Балабанаў забыўся на галоўны закон вайны: ну не трапляе снарад двойчы ў адную і тую ж варонку. Прапаганда – яна і ёсьць прапаганда паганая. І большасьць гледачоў гэта адчувае. Таму што сіла – у праўдзе, так ці не? ●

**Сьляпы П'ю**

## Як быць чачэнцам

У апошні час у расейскім кінематографе зьявілася шмат фільмаў, аб'яднаных адной агульнай тэмай – вайна ў Чачні. Такім чынам, можна з упэўненасьцю канстатаваць нараджэньне новага кінажанру – чачэнстэрну (дадзены тэрмін сфармуляваны і запатэнтаваны рэдакцыяй газэты *Навінкі*, яго выкарыстаньне без дазволу рэдакцыі забараняецца).
Маючы на ўвазе тое, што будучыня чачэнскай нацыі ўжо расьпісана на гады наперад, адзіная магчымасьць сацыяльнага прасоўваньня для маладога амбіцыйнага чачэнца складаецца ў працы статыстам на здымках чачэнстэрну. Мы прапануем некалькі асноўных інструкцыяў, якія дазволяць нашаму юнаму сябру атрымаць ярлычок «сукі чарнажопай» і вырашыць гэтым праблему хранічнага беспрацоўя, уласьцівага гэтай соцыя-прафэсійнай групе насельніцтва.
Такім чынам, стопрацэнтны чачэнскі тэрарыст павінен:
1.Пры праезьдзе ў гарадзкім грамадзкім транспарце да месца правядзеньня крывавага тэракту ніколі не набываць талончык і не аплочваць правоз выбуховых рэчываў. Прыставаць да белых жанчын у салёне. Пры зьяўленьні кантралёра скандаліць і адмаўляцца ад уплаты штрафу.
2.Падчас тэрарыстычных вылазак ва ўсю карыстацца сучаснай кампутарнай тэхнікай, у той час, калі ў расейскіх вайскоўцаў не хапае кампутарнай памяці каб загрузіць апошнюю вэрсію Mortal Combat.
3.Па цяжкадаступных горных казьліных сьцежках перасоўвацца на амэрыканскім джыпе. Пры гэтым ніколі не забывацца пакласьці ў багажнік аўто, як мінімум, аднаго барана й аднаго закладніка.
4.Пры допыце ваеннапалоннага смачна лаяцца па-расейску матам, правакуючы фэдэрала зрабіць заўвагу зарваўшамуся «хаму-палявому камандзіру». Рэкамэндуецца каўкаскі акцэнт.
5.Пры дыялёгах па рацыі з адзінаверцамі не забывацца рэгулярна клясьціся Алахам, каб потым пасьлядоўна парушаць дадзеныя раней клятвы.
6.На месцах стаянак абавязкова раскідваць выкарыстаныя шпрыцы з-пад гераіну, карты месцаў плянуемых тэрактаў, заламінаваныя пасьведчаньні арабскіх наёмнікаў, відэакасэты зьдзейсьненых раней зьверстваў і бібліятэчкі вахабіцкай літаратуры.
7.Пры набыцьці армейскай зброі ў нядобрасумленных фэдэралаў заўсёды доўга зь імі таргавацца, а затым расплаціцца фальшывымі далярамі.
8.Пры вядзеньні баявых дзеяньняў не адступаць да зьяўленьня фэдэральных вэрталётаў, а затым рассыпацца перад дэсантнікамі, каб дазволіць перасьледаваць кожнага паасобку.
9.Падчас вызваленьня спецназам закладніка, павольна адпілёўваць палоннаму вуха тупым нажом, каб даць спецназу час акружыць памяшканьне.
10.Пасьля арышту фэдэраламі выглядаць маленькім, згорбленым, сарамліва заікацца перад рэпарцёрамі ●

## *АнОнс*

### Зялёны шабаш

30 мая 16:00 у клюбе «Мэдыюм» адбудзецца эка-вечарына, у якой удзельнічаюць: з Гародні – DEVIATION, ВЫТРИ АНУС, БАСТА БАСТА, АНТИГЛОБАЛИЗАТОР, MAY BE, PET NIHIL, КАЛЬЯН, зь Менску – ТЯЖЁЛЫЕ ПОСЛЕДСТВИЯ, ГОЛАЯ МАНАШКА, НКВД, SELFSHIT, СКВОТ, ПАРАФИН і эксцэнтрычная шоў-група ИЗ КОЖИ ВОН (Гародня – Менск).
Таксама будзе магчымасьць пахарчавацца стопрацэнтова вэгетарыянскай хаўкай і набыць разнастайны DIY-шырпатрэб: касэты, майкі, сумкі, зіны, нашыўкі і г.д. Падчас фэсту вы пабачыце відэа-шоў, фотавыставу і дзіцячыя малюнкі на экалягічную тэматыку.
Уваход будзе каштаваць 2500 рублёў, зьніжкі не прадугледжаныя.

# Сьпявак ці піва

Да 15-й гадавіны свайёй творчай дзейнасьці народны артыст Аляксандар Саладуха замовіў аднайменны сорт піва. *Навінкі* прапануюць свой варыянт рэклямнага ролíку.




Півавар Саша Саладуха вельмі любіў піва «Саладуха». Аднойчы ён даведаўся, што вядомы палітык Лукашэнка ніколі не спрабаваў піва «Саладуха».

«Непарадак», – вырашыў сьпявак і, прыхапіўшы цэлую скрыню свайго піва, адправіўся ў прэзыдэнцкі палац.

Ранкам у палітыка Сашы Лукашэнкі вельмі балела галава.

Гэтак нарадзілася ідэя звольніць міністра Астапенку. Аляксандар Саладуха заўжды казаў: «Піва «Саладуха» для супэрзорак расейска-беларускай эстрады!»

# 80-ГОДЗЬДЗЮ ПІЯНЭРСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ ПРЫСЬВЯЧАЕЦЦА






196... год. У піянэрскім летніку «Беларусія» дзень пачынаўся зь лінейкі





















Галодны Саша прыйшоў да мясцовага куркуля Багданкевіча.
















Малады сынок партакрата Віталік Вячорка любіў зьдзеквацца над беларускамоўнымі сельскімі хлопчыкамі.
















Каля корпусу яго чакаў пагроза ўсіх малышоў піянэр Шчукін са старэйшага атраду.
















